# Бывай, 2017! Вітаем, 2018!
# Шчаслівых дзён, шаноўныя сябры!

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**


**№ 103 (4252)**

29 снежня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



**2018**

*Новы год са званочкам скача,*
*І, каб жыццё не было сабачым,*
*Намалюем на белым абрусе*
*Вобраз чыстай, святой Беларусі.*
*Нам патрэбны ўсяго тры чыннікі,*
*Каб пазбавіцца ад ашыйніка:*
*Гонар, годнасць і непахіснасць –*
*Наша крэда і наша існасць.*

**ЯКІМ БЫЎ ДЛЯ ВАС 2017 ГОД?**

Міхаіл ДРЫНЕЎСКІ, мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусі імя Г.Цітовіча.

## А гэта як з кветкамі: калі не палівацъ – засохнуць і загінуць



Калі па праўдзе казаць, то 2017 год быў для мяне не самым лепшым. Час такі складаны, перспектыў для калектыву не бачна, і тое, што маем, пакуль не вельмі радуе...

Можа, канешне, нешта і зменіцца ў лепшы бок, але пакуль зрухаў асаблівых не назіраецца. Нашы ўлады зусім не дбаюць пра нацыянальную культуру. Шалупіння, безгалосіцы з'яўляецца ўсё больш і больш, а сапраўдных прафесіяналаў сваёй справы не заўважаюць. Якія перспектывы для нашага калектыву? Складаецца ўражанне, што ніхто не цэніць тое, што мы можам. А гэта як з кветкамі: калі не паліваць – засохнуць і загінуць...

Вось вы пра заробкі пытаецеся, а яны ў сферы культуры самыя нізкія! Як мужыку на 150 долараў сям'ю пракарміць? А ў нашым калектыве ёсць і больш нізкія заробкі – напрыклад, пачынаючым артыстам, якія маюць вышэйшую адукацыю, даплаты робім з уласных сродкаў, каб заробак быў хоць 250 рублёў! Пра 500 долараў мы толькі марым – мы толькі пры дапамозе дзяржавы на такія лічбы выйдзем. І калі патрэбны такі калектыў, як наш, значыць, варта яго падтрымаць. Калі не – дык не, тады трэба распускаць...

Які ў нас самы высокі заробак у калектыве? Некалькі чалавек па 400 рублёў атрымліваюць... А ўсяго ў нас 126 чалавек. Было больш, але на 13 адзінак прыйшлося аптымізавацца...

Таму калі вы пытаецеся, які для мяне быў сыходзячы 2017 год, то я і кажу: не вельмі ўдалы... Калектыў спадзяецца на мяне, а я – на дзяржаву.

Але як бы там ні было, жадаю ў 2018 годзе ўсім дабра і здароўя – гэта самае галоўнае!

**ВАС ЦІКАВІЦЬ...**

## Калі пачнецца феерверк?

*Падкажыце, калі ласка, калі і дзе ў Мінску ў навагоднюю ноч можна будзе паглядзець святочны салют? Альбо ў гэтым годзе вырашылі сэканоміць і феерверку не будзе?*

**Ілона БУРЛАК, гандлярка.**

Не проста салют, а нават феерверк-шоу адбудзецца 1 студзеня ў Мінску.

Галоўнай святочнай пляцоўкай у навагоднюю ноч стане тэрыторыя ля Палаца спорту. 31 снежня ў 23 гадзіны там распачнецца музычная праграма "З Новым годам, сталіца!", якая скончыцца 1 студзеня ў 4 гадзіны раніцы.

А вось феерверк-шоу стартуе ў 1 гадзіну 30 хвілін.

Між іншым, на праспекце Пераможцаў 1 студзеня будзе да 4 раніцы працаваць "Калядны кірмаш".

**Аліна ВЕТРАВА.**

**НЕСТАНДАРТ**

## Замест застолля – дыстанцыя ў 10 кіламетраў!

*Удзельнікі каманды "Крылы анёлаў" запрашаюць мінчан пачаць новы год з... прабежкі. Ранішні забег збярэ спартсменаў і аматараў 1 студзеня ў 9 раніцы ля Палаца спорту. Адтуль пачнецца маршрут у 10 кіламетраў па цэнтральных вуліцах Мінска.*

*"Трэці год запар мы выходзім на першастудзеньскі прабег*, – цытуе belta.by арганізатараў мерапрыемства. – *Прыемна бачыць, што ўсё больш людзей аддаюць перавагу здароваму ладу жыцця, а не звыкламу застоллю. Толькі за першыя суткі пасля публікацыі навіны ў сацыяльных сетках да прабегу далучыліся 19 чалавек. Мы шчыра рады такой цікавасці да незвычайнага прабегу "Крылаў анёлаў" і нарыхтавалі яшчэ некалькі арыгінальных ідэй, пра якія аб'явім у бліжэйшы час".*

Удзел у прабегу бясплатны, але неабходна папярэдняя рэгістрацыя.

**СЛЫШАЛИ?**

## Базовая величина поднимется с 1 января

*С первого дня 2018 года размер базовой величины будет составлять 24,5 белорусского рубля.*

Последний раз базовая величина повышалась с 1 января 2017-го – на протяжении года она равнялась 23 белорусским рублям.

Базовая величина влияет на целый ряд выплат, а также размеры штрафов и иных платежей. Кроме того, к базовой величине привязаны социальные выплаты, а также пособия и стипендии, размеры государственных пошлин, арендной платы и выплат агентствам недвижимости за услуги.

**ТОСТ**

Анатоль ЗЭКАЎ, паэт

## Хачу бакал я ўгору ўзняць



Хачу бакал я ўгору ўзняць
і ад сэрца шчырым словам
ўсім здароўя пажадаць
і ў жыцці здзяйсненняў новых;

каб паменела турбот;
каб душу дзень кожны цешыў
і каб надышоўшы год
быў з усіх найшчаслівейшы!

# *Яны, на жаль, не сустрэнуць Новы год з намі...*
# Іх лёс хвалюе Беларусь!



**Юрый ЗАХАРАНКА**
знік 6811 дней таму



**Віктар ГАНЧАР**
знік 6679 дзён таму



**Анатоль КРАСОЎСКІ**
знік 6679 дзён таму



**Дзмітрый ЗАВАДСКІ**
знік 6384 дні таму

ТОСТ

Алесь БЯЛЯЦКІ, праваабаронца

## Каб усё было добра ў нашых сем’ях!



– Беларусам я хацеў бы пажадаць у 2018 годзе трываласці і актыўнасці. Каб людзі, калі ў іх з’яўляюцца нейкія праблемы, не пляткарылі на кухнях, а выносілі праблемныя пытанні ў адкрытую грамадскую прастору. Жыццё зараз няпростае, наступны год, магчыма, будзе не лягчэйшы, і пра гэта трэба нагадваць уладам. Бо на тых, хто маўчыць, як кажуць, і ваду возяць.

Таксама жадаю, каб усё было добра ў нашых сем’ях, бо ў цяжкіх жыццёвых сітуацыях менавіта сям’я звычайна з’яўляецца галоўнай апорай.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

## Оттолкнемся от… дна?

На волне некоторого оживления экономики правительство с оптимизмом смотрит в наступающий 2018 год. Оно желает существенно ускорить темпы роста экономики и повысить доходы населения. Есть ли для этого оптимизма основания?

В январе–ноябре ВВП Беларуси вырос на 2,2% в годовом измерении. Объем промышленного производства увеличился на 6,3%, объем сельхозпроизводства возрос на 4,1%. Производительность труда – на 3,4%. Более скромно увеличились инвестиции в основной капитал – на 3,6%. Ввод в эксплуатацию жилья снизился на 13%. Но снизилась до рекордно низкого уровня инфляция. На 2018 год правительство намечает добиться роста ВВП на 3,4%.

Вселяет оптимизм и пакет либеральных документов по поддержке предпринимательства во главе с декретом №7, который был обнародован в преддверии наступающего нового года. Он открывает новые возможности для самозанятости населения и ведения малого и микробизнеса. Упрощается техническое регулирование предпринимательской деятельности, отменены многочисленные санитарные и пожарные требования. Экономика прошла этап рецессии, казалось бы, достигла дна. Уходящий год прошел под знаком ростовых показателей. Однако аналитики отмечают, что рост белорусской экономики в основном обусловлен благоприятными внешними факторами. В частности, возросшими мировыми ценами на нефть, нефтепродукты и минеральные удобрения, некоторым увеличением покупательной способности российского рынка. Но самое главное – внутренних структурных изменений в экономике Беларуси в 2017 году мы по-настоящему так и не увидели. Следовательно, не увидели масштабного притока прямых иностранных инвестиций.

Более того, конь не валялся в решении проблем реформирования корпоративного управления государственными предприятиями, вопросов «утилизации» хронически неэффективных субъектов хозяйствования, которые поглощают ресурсы и не будут прибыльными без бюджетной поддержки. В очередной раз прозвучали угрозы главы государства отлучить госиждивенцев от бюджетных дотаций. Но многие из них слишком крупные, если они разорятся, без работы останутся тысячи людей, с которыми власти не будут знать, что делать. На это и рассчитывает их директорат, не без основания думая, что все как было, так и останется. Реформы государственного сектора, судя по всему, не представляются властям насущной задачей, поскольку правительство разжилось валютой из внешних источников, поэтому никаких серьезных преобразований в инфраструктуре экономики мы, скорее всего, не увидим и в 2018 году. В Беларуси две трети субъектов хозяйствования или убыточны, или работают с нулевой рентабельностью или с рентабельностью до 5%. Такие финансовые результаты не позволяют развиваться и «живым» предприятиям, так как происходит перераспределение через бюджет и другие механизмы их доходов в пользу нежизнеспособных.

В правительстве сохраняется вера в то, что существующая система управления госсектором, когда государство выступает собственником и менеджером в одном лице, может еще быть жизнеспособной. По этой причине в том числе и отложены в долгий ящик переговоры с МВФ. Фонд предлагает менять ситуацию двумя путями: через приватизацию или через повышение эффективности корпоративного управления.

2018 год сулит населению стопроцентную оплату энергетических услуг и услуг ЖКХ. А как же с ростом зарплаты и реально располагаемых доходов населения? Министр труда утешила, что реально 1000-рублевой средней зарплаты не будет и в следующем году, а пенсии будут повышаться только раз в год. 2017 год показал, что, если административными усилиями официальная статистика и выведет «всем па пиццот», три четверти занятого населения этого не увидят.

Отрицательный итог уходящего года – медленное движение по пути структурных реформ. Не может отдельный IT-декрет вытащить всю экономику страны. Надо иметь в виду, что нынешний небольшой рост – это восстановительный рост. За два предыдущих года наш ВВП упал более чем на 30%: с 76 млрд долларов в 2014-м до 47,8 млрд в 2016 году. Если мы будем прирастать даже на 3–4% ежегодно, то нетрудно подсчитать, сколько лет понадобится экономике, чтобы только выйти на прежние рубежи. Увы, эксперты скромно оценивают рост белорусского ВВП в последующие годы: на 2–2,5%. Хотя бы потому, что настолько же предполагается и рост российской экономики. Надо учесть и тот факт, что с февраля 2018 года США накладывают на Россию дополнительные экономические санкции, а белорусская экономика с каждым годом все больше обременяется растущим внутренним и внешним госдолгом. Страна вышла из рецессии, но качественно новых источников экономического роста пока не появилось. Задача правительства в следующем году и в последующие годы – искать новые точки роста. Во что бы то ни стало, нужно оттолкнуться от… дна.

ЛИЦА НОВОГО ПОКОЛЕНИЯ

# Время Анны Северинец



*Накануне новогодних праздников не хочется писать и читать о политике: дело это вообще сумрачное, а в белорусском варианте еще и неприятное. Хочется праздника. Поговорим о прекрасном.*

*О женщине.*

*Для меня уходящий год был годом Анны Северинец, с которой я познакомился сначала в интернете, потом в реальности. И теперь, хочу я этого или не хочу, Анна Константиновна стала для меня определенным символом человека, добивающегося своего вне зависимости от обстоятельств, чьей-то злой воли, желания или нежелания. Она улыбается. Она смотрит на мир широко раскрытыми глазами. Она живет нормальной полноценной жизнью счастливого человека.*

*Собственно говоря, дальше можно было бы не писать, но объяснить читателю, кто такая Анна Северинец, все-таки нужно.*

### Семейное дело

Да, скажем сразу: это старшая сестра Павла Северинца – со всеми вытекающими для нее последствиями. Она знает, что такое ожидание возвращения политзэка. Он и сама стояла в очередях, передавая в «американку» посылку своему брату-«декабристу», беременная третьим ребенком, так что младший сын ее по праву может считаться в нашей стране самым молодым из тех, кто поддерживал «узника совести»: он носил передачу дяде еще до собственного рождения. А как иначе? Иначе это было бы предательством. А Северинцы предавать не умеют.

А в остальном «семейное дело» уходит на второй и на третий план. Нет, о политике мы еще вспомним. Просто для Анны она – не главное.



Анна и Павел Северинцы с мамой.

### Профессия

Мы с ней коллеги – филологи. Только я закончил филологический факультет Гродненского университета, а она – БГУ. Для Анны эта профессия сродни наследственной болезни: отец – поэт, мать – учительница. Куда идти старшей дочери, как не в учителя литературы?

Она и пошла.

За годы после окончания университета в жизни Анны было многое. Она успела и от профессии отойти: вышла замуж, нужно было строить дом – в буквальном смысле слова, так что пришлось поработать и в бизнесе, зарабатывая на жилье. Сколько таких учителей – умных, энергичных, толковых – не возвращалось в профессию, почувствовав вкус честно заработанных денег? А Анна вернулась. И сейчас ни о каком другом выборе просто думать не может. Как это так – чтобы она ушла из школы? Не может этого быть!

В «Фейсбуке» она взахлеб рассказывает о своих отношениях с учениками. О радостях, которые они ей доставляют, о проблемах. Это внешнему наблюдателю кажется: хороший класс всегда хороший, плохой – всегда плох. А поработайте учителем сами, да еще в старших классах, – и вы поймете, что история вашего преподавания сродни любви, она знает необычайные эмоциональные взлеты и провалы, когда уже не хочется возвращаться на урок, потому что вот оно: ты не достучался, не смог объяснить, или дети тебя предали, «наказали» ни за что, не прочитав «Войну и мир», не написав сочинение по «Преступлению и наказанию», заявив, наконец, что Гоголь и Чехов им просто не интересны.

Действительно: какой Чехов в эпоху смартфонов? Вы пробовали объяснить сами себе, почему вишневый сад, который перестал плодоносить, не нужно вырубать? Вот попробуйте. А уж ученикам объяснить такое!.. Сами понимаете.

Она умудряется. Потом весь «Фейсбук» сопереживает ее страданиям. Кто-то говорит: как вам повезло с учениками! Кто-то: как ученикам повезло с учителем! Я в таких случаях говорю: как учителю повезло с администрацией школы, которая достаточно умна, чтобы не мешать учителю работать. И как им всем не повезло со временем, в которое они живут и работают – потому что школьный учитель сегодня больше времени тратит на заполнение бумаг и на исполнение внеурочных нагрузок, чем на работу с детьми.

Но мы читаем записи Анны как бесконечную педагогическую поэму, как гимн профессии, как объяснение в любви и ученикам, и коллегам. Читаем об уроках, о подготовке учеников к конкурсам и предметным олимпиадам, о буднях и праздниках жизни школьного учителя.

Читаем – и не думаем о политике. И это правильно. Она думает о нас.

### Не о политике

Говорят, что, когда решался вопрос, оставлять ли Анну на кафедре, тогдашний ректор сказал:

– Как вы себе это представляете: к студентам идет преподавать человек по фамилии Северинец? Сами понимаете…

Может быть, поэтому в аспирантуру она поступила уже после перерыва, уйдя в педагогическое небытие, именовавшееся «свободным дипломом». К чести ее университетских преподавателей должно быть сказано: при первой же возможности ей позвонили и сказали:

– Аня, приходите! В аспирантуре есть место.

Она пришла. Отучилась в аспирантуре. И замечательно закончила диссертацию. И даже вышла на обсуждение на экспертном совете – в декабре 2010 года. Как бывший ректор говорил? «Сами понимаете…»

И если вы мне скажете, что и в этом виноват Лукашенко, позвольте не поверить. Андрей Сахаров уезжал в ссылку в город Горький, оставаясь действительным членом Академии наук СССР: его товарищи по науке не смогли «сами понять», как это можно лишить человека заслуженных званий и степеней. И никакая советская власть не помешала академикам такое решение не принять. А тут… Мир не перевернулся бы, если бы Анна Северинец защитила диссертацию по зарубежной литературе. И конституционный строй не изменился бы. Но – «сами понимаете…».

Впрочем, все выглядело, как всегда, вполне прилично: она родила сына, и ей стало не до науки. Она была счастлива.

### Призвание?

Но когда в тебе живет исследователь, то и без диссертации ты можешь заниматься любимым делом. Звучит банально, но всякая истина банальна, если только ее не сформулировал Лев Толстой. Хотя и у него полно банальностей – трудно обойтись без них, если до тебя были и Гомер, и Данте, и Гете. Все и всё уже сказали – казалось бы.

Школьный преподаватель русской литературы, не защитившийся «по семейным обстоятельствам» специалист по зарубежной литературе, Анна Северинец вдруг стала заниматься белорусской литературой.

Сначала это был роман. Или – не «сначала»? Не знаю наверняка, а звонить ей по телефону и что-то уточнять – во-первых, дать понять, что ты пишешь о ней, и тогда Анна начнет уговаривать, сопротивляться, делать все, чтобы этой статьи не было. А во-вторых, какая разница, что именно было в самом начале? Речь ведь не о трактовке Священного Писания, где нельзя ошибиться.

Впрочем, любой комментатор сродни саперу: он имеет право ошибиться всего один раз.

Будем считать, что сначала Анна начала писать роман под странным названием «Дзень Святога Патрыка». Роман получил какую-то премию, и его издали. Потом его начали бурно обсуждать и включили в книжные рейтинги. Не буду оценивать первую книгу Северинец, просто потому, что она мне не слишком понравилась. Она не написана, а словно выкрикнута взахлеб. Есть такие книги: автору нужно выговориться, рассказать о том, что его волнует, от чего не продохнуть. А ее первую книгу я прочел уже после второй. И мне показалось, что вторая книга Анны Константиновны как раз и обнаружила ее призвание. Хотя – что греха таить – и она выкрикнута, выговорена, вброшена в наше сознание тогда, когда мы этого не ожидали.

Вторая книга – «Уладзімір Дубоўка. Ён і пра яго».

И сейчас трудно понять, был ли роман продолжением работы над документальной биографией или биография стала естественным продолжением романа.

В любом случае документальная книга о Дубовке, в которой кроме многочисленных документальных публикаций были использованы и собственные архивные разыскания автора, стала одной из главных книг 2017 года. Дело не в рейтингах и не в рецензиях, которые появились, разумеется. Дело в большем.

Белорусам нужны герои – как и любому народу. Нужны те, у кого хватает силы идти до конца, бороться, оставаться самим собой. Гениальный поэт Владимир Дубовка, не сломавшийся за 25 лет ссылок и лагерей, сохранивший свой поэтический талант, – чем не герой? Пожалуй, лишь Лариса Гениюш может сравниться с ним по тяжести судьбы. Два поэта – мужчина и женщина – как два мощных нравственных ориентира для нашей нации. Их нужно было вернуть.

Гениюш повезло раньше. Она нашла своего читателя, исследователя и поклонника в лице Михася Скоблы, неутомимо собиравшего каждый обрывок письма, каждый отпечаток слова – ее и о ней. Недостаток академического интереса к тому или иному писателю у нас восполняют сегодня энтузиасты, способные – по энергетике своей – заменить целые институты. Кроме Скоблы – и Сергей Шапран, и Глеб Лободенко.

А сейчас вот и Анна Северинец.

Она могла написать роман о Дубовке (собственно говоря, ее «Патрык» – и о нем, и не о нем). А написала биографию. Документальную. Я сказал Анне:

– Вы – наш Вересаев в юбке!

Смеется. А ведь правда: вересаевский «Пушкин в жизни» сто раз изруган пушкинистами, но у каждого на полке стоит. Вот сейчас и Анин «Дубоўка» стоит на полке каждого, кто всерьез интересуется нашей литературой.

### Повезло?

Наверное, рукопись можно было бы отдать в государственное издательство, которое и должно издавать такие книги. Но – «сами понимаете…».

Денег на книгу не было. Заниматься краудфандингом («ругательное» слово, обозначающее сбор средств через интернет) было бессмысленно: шла подписка на двухтомник самого Дубовки, так что все просто запутались бы окончательно, кто и на что у народа средства эти собирает.

И Анна написала Светлане Алексиевич. Должны ведь случаться чудеса? Должны. Почему не на этот раз?

Чудо случилось. Светлана Александровна ответила. Она не просто была читательницей Дубовки – она, оказывается, считает его одним из лучших поэтов Беларуси, самым городским и самым европейским. Нобелевский лауреат помогла коллеге.

Книга вышла.

Но Анна занималась уже совсем другим поэтом. Она возвращала нам Алеся Дударя.

### Возвращение Дударя

Роясь в архивах, я вывел для себя одну непреложную истину: если ты занимаешься тем, чем заниматься должен, Бог – самый опытный игрок за шахматной доской человеческих судеб – начинает тебе помогать. Когда я сказал об этом в свое время Скалабану, Виталий Владимирович радостно улыбнулся: наши ощущения совпали.

Это – кайф, когда ты возвращаешь в литературу писателя.

Вот Анне Константиновне Северинец удалось это сделать. Наверное, Бог аккуратно подталкивал ее в нужном направлении – и тихо улыбался.

Тем более что, школьный учитель и мать троих детей, она занималась архивными разысканиями во внерабочее время. Где она его находила?!

Ей повезло, конечно, – да, опять повезло! Жива племянница поэта, Лидия Марковна, которая сберегла не только память, но и бесценную рукопись первого перевода «Евгения Онегина» на белорусский язык. И в архивы Анну пустили, а могли и не пустить, как не пускают до сих пор некоторых «проштрафившихся» – правда, не у нас, не в Беларуси, но – «сами понимаете…». И она влюбилась в Дударя так, что на месте мужа я уже ревновал бы ее – к Дударю.

Итогом опять стала книга.

У вас может выйти в течение одного года три книги, если вы не живой классик, не автор дамских романов и не Николай Чергинец? А вот у Анны – вышло!

### На глазах

И все это – и работа в школе, и литературное творчество, и архивные разыскания, и даже неизбежный осенний труд по переработке дачного урожая – публично, на глазах у изумленной публики, комментируя в «Фейсбуке».

У Анны появился свой клуб фанатов, пока не оформленных организационно, но трепетно вчитывающихся в ее дневниковые записи и пытающихся найти в них что-то, чего не хватает. Я сам – из них.

Чего ищем? Оптимизма. Веры в то, что все получится. Что главное в жизни – не опускать рук. У нас не хватает такой информации. И Анна Северинец с ее неиссякаемым оптимизмом, хорошим настроением, радостью – источник энергии и для тех, кому, кажется, уже ничто не поможет.

Знаете – помогает!

Нам Анна помогает. А ей помогает семья.

На презентацию однотомника Дударя, составленного и откомментированного ею, Анна Константиновна пришла с младшим сыном – с тем самым, который вот-вот должен был появиться, когда она носила передачи брату в «американку». Молодой человек вел себя прилично моменту, смиренно дождавшись конца маминого выступления, и лишь потом потребовав уйти с ним по неотложным делам (шли, кажется, на какое-то представление).

И оба они – как мне кажется – были счастливы.

И вся семья – счастлива. И это главное.

**Александр ФЕДУТА.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
29 СНЕЖНЯ 2017 г.



## АД УСЁЙ ДУШЫ

Аляксандр САЛАДУХА:



### «Ганарыцца ёсць чым!»

*Вядомы артыст падвёў вынікі сыходзячага года.*

*– 2017 год быў для мяне вельмі насычаным, таму для гонару падстаў хапала, – распавядае артыст, якога даўно нават калегі па шоу-бізнесе лічаць народным. Хоць афіцыйнага звання народнага артыста Саладуха дагэтуль не мае.* – Як мінімум тры падставы для гонару ў мяне дакладна ёсць: дзеці! Саша, Антон, Варвара, ганаруся вамі кожны дзень, дарагія! А Варачка гэтай восенню пайшла ў першы клас, таксама выдатная нагода для гонару! Мая сям'я – мой гонар!

І мая краіна таксама. Люблю Беларусь! І ганаруся, што тут жыву.

І, вядома ж, вы, мае прыхільнікі, – таксама мой гонар! Самыя лепшыя, самыя шчырыя і самыя адданыя. З вамі і для вас – хоць у «Мінск-Арэну», хоць на танкі!

Марына ШЫБКО, дырэктар выдавецтва "Лімарыус":



### «Няхай Год Сабакі нікога з нас не пакусае!»

– Жадаю ўсім чытачам "Народнай Волі" адчуваць сябе сапраўды вольнымі, быць здаровымі і вясёлымі. Няхай Год Сабакі нікога з нас не пакусае! Хай добры і рахманы Зюзя прынясе кожнаму радасць у хату, вялікую зарплату, прывядзе новых сяброў і дапаможа зберагчы старых.

І галоўнае: чытайце! Чытайце шмат! Чытайце новае і перачытвайце любімае. Бо кожны з нас – не толькі тое, што ён есць, але перш за ўсё тое, што ён чытае.

Сяргей СМАЛЬ, заслужаны трэнер Беларусі:

### «Каб вы не ведалі дарогу ў аптэку!»



– Я хачу пажадаць усім здароўя, бо гэта тое, што не вымерачь ніякімі грашыма. У мяне слёзы на вачах стаяць, калі бачу, як траўміруюцца спартсмены і якія высілкі ім даводзіцца прыкладаць, каб прывесці свой арганізм у парадак. У спартсменаў такая праца – звязаная з рызыкай для здароўя. Але ў любым выпадку трэба яго берагчы як самае каштоўнае, што ёсць у чалавека.

Таму мой тост такі: "Каб вы нават не ведалі дарогу ў аптэку!" А таксама ўсім шчасця, поспеху, дабрабыту, упэўненасці ў сабе і ў заўтрашнім дні.

---

## ДЫЯЛОГІ

Міхась СКОБЛА – Рыгор СІТНІЦА

# «Аздобіўшы Палац Незалежнасці, мастакі сябе не зганьбілі»





*У першы дзень новага года адзначае сваё 60-годдзе вядомы графік, старшыня Саюза беларускіх мастакоў Рыгор Сітніца. Пра мастацкія вынікі адыходзячага года, пра тое, як трэба "любіць Беларусь" за мяжой, пра дзяржаўныя заказы ў Мінску і наступ на мастакоў у Маскве ён расказаў чытачам "Народнай Волі".*

### «Я не рву на сабе кашулю, але не адступаю і там, дзе трэба, свайго дамагаюся»

**– Рыгор, 2017 год адыходзіць у гісторыю. Чым ён запомніўся табе як кіраўніку Саюза беларускіх мастакоў?**

– 2017-ы быў багаты на мастацкія падзеі. Мы зладзілі вялікую Скарынінскую выставу. Выставай адзначылі 135-годдзе Марка Шагала – нашага земляка, які праславіў Віцебск і наш край на ўвесь свет. Мы зладзілі выставу, прысвечаную князю Альгерду... Усё адбывалася ў сталічным Палацы мастацтва. Сёлета мы з групай мастакоў наведалі Індыю і правялі выставу, прысвечаную гэтай незвычайнай краіне. Шмат хто з наших творцаў наведаў Кітай – і скульптары, і жывапісцы. Выставы адбыліся і там і тут. Усё проста немагчыма пералічыць. Чацвёрты год ужо я старшынюю (а да гэтага шэсць гадоў быў першым намеснікам). Клопату неверагодна шмат – па 100 і болей тэлефанаванняў за дзень, не спыняюцца яны і ў выхадныя. Аднак жа я не забываюся, што сам з'яўляюся мастаком. Я разумею, што калі сыду з усіх пасад, то ў маёй біяграфіі застануцца толькі творы. Мая творчасць прыносіць мне задавальненне. Я малюю тое, што мне хочацца намаляваць, пішу тое, што просіцца быць напісаным. Штодзень я павінен быць у офісе, але фактычна не сяджу, а бегаю – то ў гарвыканкам, то ў міністэрства, то на пасяджэнне журы, то нейкай камісіі. Штодзень прыходзіць мастакі, а нас у саюзе больш за 1000. На нашым балансе мастацкія камбінаты, галерэі, Палац мастацтва, у мяне дзесяць дырэктараў. Гэта ўсё мае клопаты.

**– Тыдзень таму была адкрыта мемарыяльная дошка на доме, дзе жыў Рыгор Барадулін. Ведаю, што ў падобных выпадках патрабуецца шмат розных узгадненняў. А ў гэтым выпадку шмат давялося пахадзіць па чыноўніцкіх кабінетах?**

– Дзякуй Богу, няшмат. Проста за апошнія гады я завязаў вельмі харошыя кантакты з гарадскімі ўладамі, з міністэрствамі. Дарэчы, там мяне прымаюць такім, які я ёсць, з маім светапоглядам, які не памяняўся. Усё вырашаецца хутка, калі ёсць фінансаванне. Калі б мы папрасілі грошы на дошку ў дзяржавы, то справа, мабыць, вырашылася б, але не так хутка. Ды і была б тады стандартная невялічкая дошка. А 24 снежня на доме Барадуліна мы ўсталявалі дошку памерам каля двух метраў. Думаю, Рыгор Іванавіч абняў бы нас за гэта – і скульптара Ігара Засімовіча, і Глеба Лабадзенку, які сабраў грошы, ну і мяне. Глеб увогуле малайчына, цяпер мы ўзгаднянем яшчэ адзін яго праект – помнік Тадэвушу Касцюшку ў Марачоўшчыне. Думаю, і там усё будзе зроблена. З цягам часу мы дойдзем і да ўшанавання памяці Васіля Быкава. Не трэба палітызаваць праблему, трэба проста спакойна працаваць у гэтым кірунку. Часам я чую у свой адрас папрокі ад людзей, настроеных крытычна да ўлады. Адказваю, што іншага часу для рэалізацыі ў нас не будзе. Я не рву на сабе кашулю, але не адступаю і там, дзе трэба, свайго дамагаюся. Свайго – гэта беларускага, агульнанацыянальнага. Скажам, на сталічнай Плошчы Свабоды стаіць скульптура войта з граматай Магдэбургскага права – гэта мой праект, ажыццёўлены разам з тагачасным намеснікам старшыні Мінскага гарвыканкама Ігарам Васільевічам Карпенкам. Тамсама стаіць помнік Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу і Станіславу Манюшку, стваральнікам першай беларускай оперы, – таксама мы з ім ставілі. Ляпілі, канешне, скульптары бацька і сын Гумілеўскія. Прычым у самы апошні момант мне давялося ўмяшацца. На помніку мусіў быць надпіс, нешта накшталт: "грамадзяне Мінска і г.д.". Ужо пры адліўцы помніка мне ўдалося змяніць назву, і там цяпер напісана: "Стваральнікам беларускай нацыянальнай оперы Манюшку і Дуніну-Марцінкевічу". Цяпер любы турыст падыходзіць да помніка і разумее, што беларуская нацыянальная опера існавала ўжо ў XIX стагоддзі. Сёння мы з кіраўніком Мінска дамаўляемся пра помнік першаму летапіснаму князю Глебу Менскаму, пра помнік бітве на Нямізе.

**– Перад нашай гутаркай я пагартаў твой нядаўна выдадзены альбом "Простыя рэчы" і зноў са здзіўленнем падумаў, што ты, як маг-чараўнік, ператвараеш у шэдэўр мастацтва звычайны паркан, страху дома, вянок цыбулі. А яшчэ кінулася ў вочы, што ў цябе сусветна вядомыя помнікі архітэктуры набываюць беларускія рысы. Нават знакаміты індыйскі Тадж-Махал…**

– Справа ў тым, што любую побытавую рэч можна ператварыць у арт-аб'ект. І я свядома гэта раблю. Мастаку нецікава маляваць сучасны катэдж, а вось нейкі стары свіран з разбуранымі дахамі – гэта ўжо вобраз, лёс, гісторыя. Там адчуваецца насычанасць энергетыкай стагоддзяў. Я таксама займаюся знакавымі архітэктурнымі помнікамі ці нейкімі гістарычнымі артэфактамі. Апошняе, што я зрабіў, гэта серыя "Прыватная археалогія", за якую мне была прысуджана Нацыянальная прэмія ў галіне выяўленчага мастацтва. Што да Тадж-Махала… Да нас цяпер шмат кітайскіх мастакоў прыязджае. І вось цікава: калі яны малююць беларускія краявіды – у іх атрымліваецца Кітай! А бачыў, як адзін кітаец намаляваў мінскі Чырвоны касцёл – ён у яго атрымаўся абсалютна кітайскі. Хоць і пазнавальны. Так і ў мяне атрымліваецца. Праяўляецца наша генетыка, ад якой ты не можаш адкараскацца, ды і не трэба. Гэта нармальная з'ява, калі беларус усё збеларушвае.

### «На маскоўскім судзе расправу над мастакамі я назваў Крымам-2»

**– Ведаю, што ты нядаўна вярнуўся з Масквы, дзе прайшло судовае разбіральніцтва ў справе Міжнароднай канфедэрацыі Саюзаў мастакоў. Якая перадгісторыя гэтай справы і чым яна ўрэшце закончылася?**

– Калі я чую размовы пра інтэграцыю, пра агульную культурную супольнасць, я гэтаму цяпер мала веру. І вось чаму. Калі развалі́ўся Савецкі Саюз, толькі мастакі захавалі сваю арганізацыю – Саюз мастакоў (пад назвай Міжнародная канфедэрацыя Саюзаў мастакоў). Ёй належалі Цэнтральны дом мастака ў Маскве, Дом творчасці "Сенеж", Падольскі мастацкі камбінат, вельмі шмат іншых будынкаў і велізарная калекцыя твораў – 46.000 адзінак. Мы заўсёды лічылі нашу канфедэрацыю ўзорным аб'ектам інтэграцыі. І нам усе зайздросцілі – пісьменнікі, журналісты, кінематаграфісты, якія ўсю сваю маёмасць разбазарылі. Мастакі ў Цэнтральным доме займалі 10.000 квадратных метраў, а 30.000 метраў – Трацціякоўская галерэя (Новая Траццякоўка). І ўвесь час яна аблізвалася на нашы плошчы. Падаткі ў Маскве растуць і растуць, і нам нічога не заставалася, як прадаць некалькі твораў з калекцыі былога Саюза мастакоў СССР. Скажам, карцінай нашага земляка з Гомельшчыны Георгія Нізскага (народнага мастака Расіі, лаўрэата Сталінскай прэміі) зацікавіўся маскоўскі калекцыянер Ананьеў – вельмі багаты чалавек, які стварыў Музей рускага рэалізму. У яго там ёсць усё, не хапала толькі Нізскага. Гэта добры мастак, але не Дайнека і не Герасімаў, і ніколі ён на мастацкім рынку не каціраваўся. А тут прыходзіць да нас у канфедэрацыю Ананьеў і прапануе адразу 100.000 долараў. Мы яму Нізскага не саступілі. Калекцыянер прыйшоў праз паўгода і дадаў яшчэ 50.000. Мы зразумелі, што Нізскі яму вельмі патрэбны, і ён купіць яго за любыя грошы. І пачалі працаваць над тым, каб вывесці Нізскага на "Sotheby's". Гэта было вельмі складана, але ўрэшце аўкцыён адбыўся, і Ананьеў дамогся свайго – набыў Нізскага за 3 мільёны долараў.

**– Ого! Я не эксперт у галіне жывапісу, але гэта проста неверагодная цана для мастака, якога мала хто ведае на Захадзе.**

– Дык цяпер ужо ведаюць, мы на яго "раскрутку" патрацілі каля двух гадоў. І хоць мы ўсю працэдуру правялі легальна, сплацілі вялікія падаткі, у нас на гэтым пачаліся праблемы. Багатыя расійскія дзядзькі ўбачылі – вось дзе багацце ляжыць! І на нас пачалі ціснуць. Ціснулі-ціснулі і ціснулі. Нядаўна Вярхоўны суд Расіі ліквідаваў нашу канфедэрацыю. Я быў на двух пасяджэннях – большага разбою я ўявіць сабе не магу. Абсурдна ўжо тое, што суд даручыў ліквідаваць арганізацыю расійскаму Саюзу мастакоў. Гэта наша права – стварыць ліквідацыйную камісію і думаць, як распарадзіцца нашай маёмасцю: ці прадаць, ці падарыць, ці раздзяліць неяк. Бо і ў згаданай калекцыі, і ў будынках 15 працэнтаў належыць Беларусі. У той калекцыі ёсць творы Міхаіла Савіцкага, Канстанціна Вашчанкі, Георгія Кішчанкі, Мая Данцыга, Георгія Паплаўскага, Арлена Кашкурэвіча, Віталя Цвіркі – усіх беларускіх майстроў. А расійскі Саюз мастакоў узначальвае Андрэй Кавальчук, ён член прэзідэнцкага савета, грамадскай палаты, народны мастак Расіі і г.д. І як яму скажуць, так ён і распарадзіцца агульнай маёмасцю.

**– Ці ёсць шанцы хоць нешта з тае калекцыі вярнуць Беларусі?**

– Не наіўны я чалавек, бо трохі ведаю расійскія парадкі. Калекцыю могуць абвясціць музейным фондам ці нейкім іншым спосабам прыўласніць. Так што ў мяне ілюзій на гэты конт няма. На маскоўскім судзе расправу над мастакамі я назваў Крымам-2. Але проста так уцерціся і пайсці я не магу сабе дазволіць. Мы будзем працягваць змаганне.

### «Каб не мы, прыехалі б мастакі з Масквы, і можна толькі ўявіць, чаго б яны ў Палацы Незалежнасці панамалёўвалі»

**– Многія грамадскія арганізацыі ў Беларусі існуюць на мяжы выжывання. Скажам, Саюз пісьменнікаў быў выгнаны са свайго будынка і падзелены на дзве суполкі. А як Саюзу мастакоў удалося захавацца?**

– Гэта заслуга ўсяго Саюза мастакоў. У свой час нам хапіла розуму не завастраць і так вострыя праблемы. Хоць, паўтаруся, я застаюся абсалютна на ранейшых грамадзянскіх пазіцыях. І – знаходжу паразуменне з людзьмі, якія, здавалася б, стаяць на супрацьлеглых пазіцыях. А можна рваць на сабе кашулю і даказваць, што мы самыя-самыя лепшыя гульцы, хоць прайграём ужо 23 гады з сухім лікам.

**– Часам можна пачуць, што Саюз мастакоў ператварыў Палац мастацтва ў кірмаш – там і мёд прадаюць, і кнігі, і шмат што яшчэ. Без гэтага ніяк нельга абысціся?**

– На сённяшні дзень – ніяк. У той жа час у палацы, дзе сапраўды часам ладзяцца кірмашы, сёлета прайшлі 42 мастацкія выставы. Саюз мастакоў – не бюджэтная арганізацыя, мы за ўсё плацім самі і павінны зарабляць грошы. Мы ладзілі выставы да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы, да 1000-годдзя гістарычнай Літвы, на вясну 2018-га рыхтуем вялікую выставу да 100-х угодкаў БНР. Робіцца помнік князю Гедыміну ў Лідзе. На ўсё гэта патрэбны немалыя сродкі. Ніхто нам грошай за так не дае. Таму, калі да нас прыходзяць тыя ж пчаляры, мы ім не адмаўляем, бо гэта нашы кармільцы.

**– Адна з даўніх праблем мастакоў – утрыманне майстэрань. Ці ўдалося вам дасягнуць паразумення з уладамі? Колькі сёння творца мусіць плаціць за майстэрню?**

– Пэўнага паразумення мы дасягнулі. Цяпер мы выдзелены ў асобную групу плацельшчыкаў – майстэрні творчых работнікаў – і сёння купляем цяпло за столькі, колькі яно каштуе. А раней пераплачвалі мінімум у два разы. Плата за некаторыя майстэрні дасягала 5–8 мільёнаў (па старых разліках). Цяпер на 10 працэнтаў меней, але мы гэтага не адчулі. Таму што, пакуль мы змагаліся за гэтую палёгку, выраслі тарыфы. Суцяшае хіба тое, што да 2020 года і кватэры, і завод, і фірма, і майстэрня будуць плаціць адну цану.

**– А яшчэ вашы крытыкі папракалі кіраўніцтва Саюза мастакоў за ўдзел у аздабленні Палаца Незалежнасці. Як ты ацэньваеш зробленае там менавіта з мастацкага гледзішча?**

– Думаю, што, аздобіўшы Палац Незалежнасці, мастакі сябе не зганьбілі. Гэта нармальны заказ у нашай краіне. Не зрабілі б мы, прыехалі б мастакі з Масквы, і можна толькі ўявіць, чаго б яны там панамалёўвалі. Нашы мастакі там хоць зарабіць змаглі нармальна. І не схібілі. Скажам, зала, дзе адлюстраваны нацыянальныя святы – Каляды, Купалле, Багач, Дажынкі, – вельмі прыстойна зроблена. Я і сёння гатоў падпісацца пад тымі творамі, не бачу тут ніякага граху.

**– Ты родам з Петрыкаўскага раёна, дзе расла і вучылася ў школе Святлана Алексіевіч. Дык у яе гонар у вёсцы Капаткевічы хацелі нават трактар назваць. А як ставіцца на малой радзіме да мастака Рыгора Сітніцы?**

– Ну, я ж не Нобелеўскі лаўрэат, каб маім прозвішчам нешта там называць (*смяецца*). Праўда, мае сваякі жывуць на вуліцы імя Віці Сітніцы. Гэта мой дзядзька – 13-гадовы піянер-герой. З ім увогуле цьмяная гісторыя, яе я спрабую даследаваць у рамане, які дапісваю. На вялікі жаль, у мяне з малой радзімай кантакты толькі сямейныя. На Гомельшчыне жывуць мой брат, цёткі, стрыечныя і траюрадныя браты. Іх так шмат, што я ўсіх і не ведаю. У мяне каля 30 было толькі стрыечных. А ўлады раённыя… Можа, яны і не ведаюць, хто я, дзе я…

### «Калі ў Маскве пачынаюць крытыкаваць уладу ў Беларусі, то мяне гэта абражае»

**– Мне запомніліся твае развагі з нашай папярэдняй гутаркі. Бывае, ходзіць чалавек нягалены, зарослы, і раптам паголіцца, і ўсе адразу заўважаюць перамену: глянце, чалавекам стаў. Так можа быць і з дзяржавай… Сёння ты лічыш, што наша дзяржава "пагалілася"?**

– Я і раней лічыў, што мы "паголеныя". Я заўсёды любіў сваю краіну, свой народ, сваю дзяржаву, якімі б яны ні былі. Я патрыёт, і ніколі нікому не дазволю пра нас казаць штосьці кепскае. Навят пра ўладу. Калі ў Маскве пачынаюць крытыкаваць уладу ў Беларусі, то мяне гэта абражае. Калі хтосьці кпіць з Беларусі, то яго кпіны я ўспрымаю на свой адрас. Гэта мы маем права крытыкаваць сябе, а чужая гэтага права не мае. Гэта як у сям'і. Калі, напрыклад, майго бацьку ці маці чужы чалавек пачне абзываць, то я яму зубы выб'ю. Так і з дзяржавай. Нельга дазваляць, каб нехта нас прыніжаў – не важна за што. Гэта наша дзяржава, і мы тут самі разбяромся. Вядома ж, мы змяняемся паціху. Так, Беларусь праходзіць свой падлеткавы ўзрост вельмі шпарка. І мы бачым, як дзяржава паступова паварочваецца да нацыянальных каштоўнасцяў. Калі дзяржава хоча быць дзяржавай, то не павінна секчы сук, на якім сядзіць. А гэта – беларуская мова, гісторыя, традыцыі, культура, рэлігія. Бо, калі іх няма, тэрыторыя і народ становяцца здабыткам ласага суседа. І калі мы не хочам стаць такім здабыткам, то павінны захаваць свае фундаментальныя каштоўнасці.

**– У свой час цябе прынялі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў – нават без кнігі, толькі па часопісных публікацыях. Падобным чынам прымалі, калі не памыляюся, толькі Уладзіміра Караткевіча. Калі паклоннікі Сітніцы-паэта прычакаюць тваю першую кнігу?**

– Я вельмі ганаруся, што мяне, як і Караткевіча, прынялі ў СБП як бы авансам. А кніга пад назвай "Ток" выйдзе літаральна ў наступным месяцы. Рыхтавалася яна гадоў дзесяць, бо я вельмі патрабавальны да сябе чалавек, сам для сябе я самы жорсткі цэнзар. Шмат якія вершы я выкінуў з кнігі з-за мастацкай недасканаласці.

**– А ці будзе там твой "пазнавальны" верш "Павятовы фельдмаршал прымае ваенны парад…"?**

– Будзе. Гэта добры верш. Многія ранейшыя тэксты я перапрацаваў. Скажам, быў у мяне верш: *"Мне мулка на лік ісці, на "зважай" стаяць, / Мне ўсякі статут, прабачце, лухта лухтой"*. Дык я падумаў, што не можа, напрыклад, Статут ВКЛ быць лухтой. Таму ў новым варыянце – "шыхтовы статут мне лухта лухтой". Бо той жа статут Саюза мастакоў я мушу выконваць, іх прыняла ўся грамада, ён нам не навязаны звонку. Ён даволі гнуткі, дэмакратычны, нікога не абмяжоўвае ў творчасці. Як мастак я нія не навязаны нашым статутам.

**– Як будзеш адзначаць сваё 60-годдзе? Ці будзеш ладзіць персанальную выставу?**

– Выстава ў Мастацкім музеі будзе, але пазней. А 23 студзеня адбудзецца вечарына ў Вялікай зале сталічнай філармоніі. Я даўно хацеў зрабіць такое паэтычна-музычнае свята – сумесна з ансамблем "Класік-авангард" і фольк-гуртом "Палац". Да таго часу выйдзе кніга, а нядаўна ўжо выйшаў мой альбом "Простыя рэчы". Там 140 рэпрадукцый маіх прац і каля 50 вершаў. Запрашу на вечарыну ўсіх сяброў – імпрэза ладзіцца найперш для іх.

**– Што б ты хацеў пажадаць суайчыннікам напярэдадні Новага года?**

– Пажадаю ўсім нам застацца беларусамі. Тое, што мы захаваліся як народ, як нацыя, насуперак усім перашкодам і цяжкасцям – сваёго роду феномен. Мы павінны гэта цаніць. Мы існуем у гэтым свеце, і нікуды мы не дзенемся. Рыбіна плаве, пакуль вада ёсць. Так і мы ў любых умовах будзем жыць. Як сказана ў адным з маіх вершаў: *"Няхай захліснуць нас аблудаў хвалі, / Хай рыбыя наша сплывае туманамі, / Ды нас ужо столькі разоў пахавалі, / Што болей нястрашна быць пахаванымі. / Бо існым небам і родным краем / Душу не аблытаць ніякім аблудзем. / Няхай мы маем тое, што маем, / Ды ведаю – будзем!"*






ОТ ДУШИ

## Искуи АБАЛЯН:
# «Всем мира и добра!»

– Осталось пару дней – и Новый год! – *говорит известная белорусская певица, Посол доброй воли Управления Верховного комиссара ООН по делам беженцев.* – Как стремительно время... Каждый год позади остаются события, люди... А воспоминания и ощущения прибавляются...

Жизнь проще, чем кажется. Да, всегда найдутся люди и события, которые разочаруют. Да, вокруг, возможно, будет много несправедливости, подлости и предательства. Но скажите, разве это стоит того, чтобы разрушать свое спокойствие и гармонию?

Нет, конечно, не стоит. Всем мира и добра!

Пусть Новый год будет счастливым и ярким для всех! Всех обнимаю!



РЭЙТЫНГ

# Жанчыны руляць!

*Вызначаны лепшыя спартсмены Беларусі 2017 года.*

Газета “Спортивная панорама” назвала лаўрэатаў спартыўнага года. Вынікі апытання такія:

1.Таццяна Пятрэня (батут)
2.Вольга Худзенка (байдарка)
3.Арына Сабаленка (тэніс)
4.Ванеса Каладзінская (жаночая барацьба)
5.Дар’я Домрачава (біятлон)
6.Настасся Пракапенка (пяцібор’е)
7.Аляксандра Сасновіч (тэніс)
8.Аляксандра Герасіменя (плаванне)
9.Антон Кушнір (фрыстайл)
10.Васіль Кірыенка (веласпорт)

Як бачым, мужчыны ў гэтым годзе ў спорце праявілі сябе вельмі слаба. Бярыце прыклад са “слабага” полу!

ПАДЗЕІ

# ПЕРАМОГІ, СКАНДАЛЫ І СТРАТЫ...

*“Народная Воля” вызначыла найбольш адметныя падзеі, якія адбыліся ў 2017 годзе ў беларускім спорце і за яго кулісамі.*

## Вяртанне года



У красавіку 2016 года стала вядома, што трохразовая алімпійская чэмпіёнка па біятлоне **Дар’я ДОМРАЧАВА** чакае дзіця ад нарвежскага біятланіста **Уле-Эйнара Б’ёрндалена**. Летам зорная пара адгуляла вяселле, а 1 кастрычніка ў іх нарадзілася дачка Ксенія.

Ужо 6 студзеня 2017 года Даша стартавала на этапе Кубка свету ў Оберхофе пасля паўтарагадовага перапынку, а яшчэ праз месяц заваявала “серабро” ў гонцы пераследу на чэмпіянаце свету, які праходзіў у аўстрыйскім Хахфільцыне. Пры гэтым на першынство Дар’і давялося адправіцца з малой дачкой, так што святкавалі поспех усё сям’ёй. Вось гэта вяртанне!

## Салодкая пілюля



У студзені Спартыўны арбітражны суд паведаміў, што з **МУЖЧЫНСКАЙ ЗБОРНАЙ БЕЛАРУСІ ПА ВЕСЛАВАННІ НА БАЙДАРКАХ І КАНОЭ** знялі дыскваліфікацыю з-за недастатковасці доказаў.

Рашэнне аб дыскваліфікацыі на адзін год вынесла Міжнародная федэрацыя каноэ, якая мела падазрэнні, што беларуская каманда парушыла антыдопінгавыя правілы падчас збору ў Францыі. У выніку нашы спартсмены не трапілі на Алімпіяду-2016, дзе маглі пазмагацца за самыя высокія ўзнагароды. Беларускі бок падаў апеляцыю, і суд яе задаволіў.

*“Ёсць, безумоўна, маральнае задавальненне, што рашэнне прынята на нашу карысць,* – заявіў пасля гэтага “Народнай Волі” галоўны трэнер весляроў **Уладзімір Шантаровіч.** – *Прыкра, што спортам сталі ў апошні час кіраваць брудныя грошы. Вось і ідуць заказы прыбраць тых альбо іншых. І пляваць яны хацелі на алімпійскія прынцыпы і ідэалы! У такі век жывём”.*

## Дэмарш



На юніёрскім чэмпіянаце Еўропы па лёгкай атлетыцы, які праходзіў у Італіі, залаты медаль у трайным скачку заваявала беларуска **Віялета СКВАРЦОВА**.

Падчас узнагароджвання спартсменкі з-за тэхнічнай памылкі арганізатары ўключылі гімн іншай краіны, і 19-гадовая лёгкаатлетка прыняла нестандартнае рашэнне: пры першых гуках «няправільнага» гімна без парадаў з боку яна пакінула п’едэстал і адмовілася туды вяртацца нават пад пагрозай магчымай дыскваліфікацыі.

Зрэшты, санкцыі да Віялеты Скварцовай ужыты не былі. Наадварот! Арганізатары прынеслі беларускаму боку прабачэнні і правялі цырымонію ўзнагароджвання паўторна.

## Скандал у Францыі



3 мая непрыемны інцыдэнт адбыўся са **ЗБОРНАЙ БЕЛАРУСІ ПА ХАКЕІ,** якая прыехала ў Францыю на чэмпіянат свету. На чыгуначнай станцыі паліцыя правяла пільны нагляд багажу галоўнага трэнера беларускай каманды **Дэйва Льюіса**, ягоных памочнікаў **Крэйга Вудкрафта** і **Алега Антоненкі**. Праз такую ж працэдуру прайшлі форвард **Ягор Шаранговіч** і **Андрэй Касціцын**. Нічога не знайшоўшы, прыкладна праз 20 хвілін паліцыя ўсіх адпусціла.

У выніку кіраўніцтва Міністэрства замежных спраў Беларусі нават выклікала пасла Францыі для разбіральніцтва ў інцыдэнце, а затым за сітуацыю на парыжскім вакзале беларускім хакеістам свае прабачэнні прынеслі прэзідэнт Федэрацыі хакея Францыі Люк Тардзіф і кіраўнік Міжнароднай федэрацыі хакея Рэнэ Фазель.

Невядома, наколькі гэты скандал паўплываў на маральны стан хакеістаў, але беларуская каманда на першынстве ледзь не вылецела з элітнага дывізіёна.

## Брудныя гульні



На пачатку года былы дырэктар Дэпартамента судзейства і інспектавання Беларускай федэрацыі футбола **Андрэй ЖУКАЎ** быў асуджаны за хабар на 5 год пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

А 12 кастрычніка быў вынесены прысуд па першай у беларускай гісторыі **СПРАВЕ АБ ДАМОЎЛЕНЫХ ФУТБОЛЬНЫХ МАТЧАХ.** На лаве падсудных апынуліся 15 чалавек, з іх 14 – прафесійныя беларускія футбалісты і трэнеры.

Найбольшае пакаранне – 3 гады абмежавання волі на так званай «хіміі» – атрымалі экс-ігракі клубаў першай футбольнай лігі Беларусі **Вячаслаў Замара** і **Юрый Сыраквашка**.

## Сямейныя разборкі

Не паспелі прыхільнікі беларускай тэнісісткі **Вікторыі АЗАРАНКА** нарадавацца сямейнай ідыліі спартсменкі з яе амерыканскім бойфрэндам **Білі МакКігам**, у якіх у снежні мінулага года нарадзіўся сын, як іх сямейнае жыццё дало расколіну.



Праз паўтара месяца пасля родаў Азаранка вярнулася на корт, але ў хуткім часе вымушана была спыніць выступленні на спаборніцтвах і заняцца судовымі разборкамі для вырашэння пытання аб апецы над сынам.

Стала вядома, што ў ліпені пара распалася, а МакКіг ў ЗША звярнуўся ў суд з заявай, што занепакоены крадзяжом дзіцяці. У кароткі тэрмін суд пастанавіў, што дзіця павінна вярнуцца ў Лос-Анджэлес. Дарэчы, пытанне аб апецы не вырашана да гэтага часу.

## Страта



22 мая не стала вядомага беларускага шахматыста, міжнароднага гросмайстра **Віктара КУПРЭЙЧЫКА.**

Апошнім часам Віктар Давыдавіч хварэў і нават, калі ездзіў на нейкія замежныя турніры, звяртаўся па дапамогу ў медыцынскія ўстановы той краіны, дзе знаходзіўся.

*«Мне неабходна беспярэпынна рабіць пэўныя медыцынскія працэдуры, а таму, напрыклад, падчас турніру ў Ерэване ўсё гэта разглядалася нават на ўзроўні міністра аховы здароўя,* – распавядаў ён. – *Мой добры сябар – вядомы армянскі шахматыст **Рафік Ваганян** паклапаціўся. Таму даводзілася сумяшчаць матчы з наведваннем лякарні. Але шахматы – неад’емная частка майго жыцця. Гуляю – значыць, жыву!»*

Падрыхтаваў
**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЛЮДИ, КОТОРЫЕ НАС УДИВИЛИ

## Александр АНИСИМОВ:
# «Даже поспать на концерте классической музыки и то полезно для здоровья»

*Каждый декабрь – вот уже более десяти лет! – маэстро Александр Анисимов дает новогодний концерт 31 декабря. Музыкальный вечер в ночь перед боем новогодних курантов стал очень популярен у минчан. Поэтому постепенно этот «снежный концерт» превратился в цикл. В этом году в афише появилось уже три декабрьских симфонических вечера Александра Анисимова: один из них прошел 26 декабря, два других впереди – 30 и 31. Но, как говорится, просьба не беспокоиться: билеты раскуплены еще в октябре! Маэстро воспитал целое поколение публики, которое уже не представляет себе встречу Нового года без классической музыки. Как, впрочем, и всю остальную свою жизнь. Концерты Анисимова практически всегда проходят при переполненном зале. Мы задали дирижеру провокационный вопрос: как он добивается аншлагов? Может быть, осознанно идет на заигрывание с публикой? Правда, серьезный музыкант Анисимов такие вопросы «щелкает» на раз:*

– Я не боюсь того, что долдонят за моей спиной скептики. Сегодня без искреннего стремления прийти к публике самим, а не ждать, когда она захочет вас услышать, музыкантам просто не прожить. Поэтому когда я составляю любую программу, всегда думаю, чтобы это было не серо, а увлекательно. И чтобы люди не считали, что на сцене сидят ботаники-академики, а в зале – несчастная серая масса.

**– Хотите слиться с массами? В это трудно поверить…**

– Нет, я не ищу панибратства с публикой: все равно мы элита. И жанр классической симфонической музыки все равно элитарный, конечно. Хотя вот японцы: они покупают билет за 150 долларов и не стесняются, что чего-то не понимают. Знают, что даже поспать на концерте классической музыки и то полезно для здоровья. Потому что подсознательно музыку сердцем воспринимает каждый человек.

**– В этом году и у вас, и у оркестра был юбилей, две прекрасные цифры: 70 и 90. Думаю, сегодня такому серьезному коллективу как Государственный симфонический оркестр, все под силу. Или есть проблемы?**

– Не поверите, большая проблема – получить нотный материал. Это не всегда просто и главное – не дешево. Например, «Саломея» Рихарда Штрауса. На это сочинение до сих пор сохраняются права наследников, поэтому, когда мы захотели его исполнить, только посольство Германии смогло нам помочь. Они купили права на один концерт, всего на одно исполнение, оплатив аренду нот. Или, скажем, «Кольцо Нибелунгов» Вагнера. У нас этих нот нет, они есть у маэстро Гергиева в Мариинском театре, их тоже можно получить только за деньги.

**– А какой нотный материал есть только в нашем оркестре? Чтобы его тоже можно было отдать в аренду за деньги?**

– Я везу из Беларуси в Россию цимбальный концерт Курьяна, музыку Глебова, Смольского – этих нот в российских коллективах нет. Добавлю, что в нашем оркестре работали такие мастера, как маэстро Катаев, который был азартен на исполнение новой музыки. Например, он был первым исполнителем некоторых произведений Шостаковича, мало того, чуть ли не запрещенных. Четырнадцатую симфонию Шостаковича он каким-то чудом вывез из Москвы и первым исполнил ее именно в Минске. Или того же Бартока, или Хиндемита. Замечу, в зарубежных оркестрах этих проблем нет, там сразу примерно 60 процентов бюджета оркестра закладывается на аренду нот. А у нас все «бесплатно» – кормимся пока из интернета.

**– Позвольте спросить: а сколько лет вы уже стоите за дирижерским пультом?**

– Я начал заниматься дирижированием, будучи еще студентом, так что насчитывается 50 лет моего «размахивания руками». И почти 30 лет я работаю в Беларуси. Хотя всегда совмещаю с работой в оркестрах других городов, в том числе как главный дирижер. Любой артист, любая персона, которая достигает определенных результатов, бывает сразу востребована.



**– Я всегда поражаюсь, как вам удается не разорваться на части, летая между несколькими городами, а то и странами?**

– Зачем разрываться, когда есть график, дисциплина, правильное отношение к здоровью, налаженная ситуация с помощниками, ассистентами. Это радостная работа, которая приносит творческое удовлетворение. Тем более что вторая часть моей профессии – опера. Я неразрывно связан с вокалом, голосом, движением, и, когда в свое время пришло предложение из Перми возглавить оркестр оперного театра, я его принял. Потом был театр в Ростове. Потом Ирландия, Испания, Голландия. Потом Самара – последняя моя любовь. И хочется надеяться, что сил еще на многое хватит.

**– Вопрос, насколько нужен дирижер в оркестре, сейчас считается из области анекдотов. А вдруг мы доживем до времени, когда эту должность упразднят?**

– Пример работы оркестра без дирижера исторически существовал: знаменитый «Персимфанс» – первый симфонический ансамбль в 1920–1930-х годах. Этот эксперимент просуществовал недолго, всего год. Но сейчас технологии запросто могут дойти до такого: заменить дирижера роботом. Хотя на Западе стоимость билета по-прежнему очень высока: на симфонические концерты – 300 евро, на камерную инструментальную музыку – 250, на оперу – 200, на балет – 150 евро. Однажды перед Новым годом я дирижировал в Токио Девятую симфонию Бетховена. Дирижировал ее четыре дня подряд, причем в огромном «Сантори холл» на 2 тысячи человек. И по всему Токио в ту предновогоднюю неделю роскошными оркестрами Токио исполнялась та же самая Девятая симфония Бетховена. У них принято встречать Новый год не «Щелкунчиком», как в Европе, а Бетховеном. И билеты раскупаются японцами вчистую! Почему? Живое исполнение живых людей, которые на ваших глазах отдают свою энергию, которые творят на ваших глазах, не заменит никакая техника.

**– Интересно, как вы относитесь к своей популярности?**

– Я от нее не прячусь. Люди ко мне подходят, мы разговариваем. Особенно приятно, если кто-то просит помочь с билетом. Только однажды на вопрос дамы «Вы не Анисимов?» я ответил: «Нет». Мы буквально столкнулись с ней в дверях магазина, и, кажется, оба торопились. Но она все-таки успела сказать: «Очень похожи. Вот он тоже такой вежливый».

**– Какой стиль общения с коллективом вы предпочитаете?**

– Я хочу в оркестре видеть единомышленников, чтобы искать истину вместе. Но я же понимаю: на одних улыбках и похвалах далеко не уедешь. Пожалуй, мой стиль диалектическое совмещение демократии с требовательностью.

**– Что бы вы перед Новым годом, Александр Михайлович, пожелали самому себе?**

– Однажды в Лондоне я работал вместе с Мстиславом Ростроповичем и задал ему вопрос про планы. Он ответил: «Понимаешь, я раскрываю свой дневник (дело было в 2000-м), а там написано: 2011 год, Ковент Гарден, начало репетиции в 11.00. Ну, придется жить!» У меня, правда, не на 10 лет вперед расписано, но на три года вперед задание есть. Так что я пожелал бы себе того же: «Придется жить!»

**Елена МОЛОЧКО.**

СОСЕДИ

## В Литве увеличивают пенсионный стаж

*Директор Фонда социального страхования («Содра») Миндаугас Синкявичюс сказал, что обязательный пенсионный стаж будут повышать постепенно, а к 2027 году он составит 35 лет.*

Сейчас обязательный пенсионный стаж составляет 30,5 года.

Как сообщает delfi.lt, в соответствии с новым порядком, людям будет проще понять, на какую пенсию они могут рассчитывать.

*«Чтобы людям стало понятнее, останется общая часть пенсии, которая зависит от стажа, а вторая часть – зависит от взносов,* – сказал глава «Содры». *– У тех, кто набрал обязательный пенсионный стаж (сейчас 30,5 года), вторая часть будет определяться в баллах. Максимальное количество баллов – 5, стоимость балла – 3,27 евро. За 12 месячных средних зарплат человек будет получать один балл, если больше – соответственно будет больше баллов».* Синкявичюс подчеркнул, что на тех же условиях будут считать пенсию и тем, кто работает на себя, индивидуально. Все доходы высчитают в баллах, от них будет зависеть пенсия. Представляя новый порядок подсчета пенсий, глава «Содры» заметил: *«Пенсии всех пенсионеров индексируют, люди получат пенсии на 7% выше. После мая, большая часть пенсий увеличится, особенно у тех, у кого есть неучтенный стаж, и у тех, у кого стаж больше 30 лет. За каждый год такие люди будут получать к пенсии по 80 евроцентов, значит, если у человека 40 лет стажа, пенсия увеличится на 8 евро».*

## Какое событие для украинцев главное?

*Большинство украинцев считает введение безвизового режима с Европейским Союзом главным политическим событием 2017 года.*

*Об этом свидетельствуют данные опроса Фонда «Демократические инициативы» имени Илька Кучерива, сообщает «Интерфакс-Украина».*

Безвиз с ЕС назвали главным политическим событием 26,1% респондентов, 9,6% считают таким событием «дело Саакашвили», 9,1% указали войну, 6% – пенсионную реформу.

Среди международных событий украинцы назвали главным событием вступление Дональда Трампа на пост президента США (16,7%), 7,6% – войну в Сирии, 25,5% затруднились ответить на вопрос.

Опрос проводился фондом «Демократические инициативы» имени Илька Кучерива совместно с социологической службой Центра Разумкова с 15 по 19 декабря 2017 года во всех регионах Украины, за исключением Автономной Республики Крым и оккупированных территорий Донецкой и Луганской областей. Было опрошено 2004 респондента в возрасте от 18 лет. Теоретическая погрешность выборки не превышает 2,3%.

Как сообщалось, за полгода с начала действия безвизового режима со странами ЕС 355 тысяч граждан Украины воспользовались преимуществами упрощенной системы.

С МИРУ ПО НИТКЕ

## В Великобритании из Национального архива исчезли тысячи документов




*Они касаются наиболее противоречивых эпизодов истории XX века. Об этом сообщает The Guardian.*

Так, из архива исчезли документы, касающиеся войны за Фолклендские острова, проблем вокруг Северной Ирландии, а также так называемое письмо Зиновьева – обращение к английским коммунистам якобы от имени социалистических революционных деятелей с призывом активизировать подрывную работу. Руководство СССР, включая самого Григория Зиновьева, который в то время был председателем комитета Коминтерна, авторство письма отрицало. Однако документ привел к отставке правительства лейбористов и победе на внеочередных выборах Консервативной партии.

Другие пропавшие документы касаются британской колониальной администрации в Палестине, тестирования вакцины от полиомиелита и территориальных споров с Аргентиной.

В целом исчезли более тысячи папок, каждая из которых состоит из десятков документов.

Документы исчезли после того, как сотрудники правительства забрали их из архива.

## В Румынии смягчат антикоррупционное законодательство?

*Депутаты от правящей партии Румынии предложили изменения в законодательство о борьбе с коррупцией, которые могут увеличить обеспокоенность по поводу верховенства права в стране.*

*Об этом сообщает EUobserver.*

Группа депутатов от Социал-демократической партии (PSD) предложила декриминализировать случаи злоупотребления служебным положением, когда ущерб составляет менее 200 тыс. евро, и уменьшить срок наказания.

Они также предложили декриминализировать злоупотребление служебным положением и злоупотребление властью для получения сексуальных услуг.

Законопроект также предусматривает 6-месячный срок действия отчетов о коррупционных делах для власти, а также возможность для некоторых лиц отбывать заключение дома.

Предложение имеет сходства со специальным указом, принятым правительством в январе, который был направлен на декриминализацию дел о коррупции в размере примерно 40 тыс. евро. Правительство было вынуждено отменить указ из-за протестов, которые продолжались несколько недель.

Законопроект был подан меньше чем через неделю после того, как румынский парламент утвердил противоречивую реформу системы правосудия.

Согласно законопроекту, прокурорам придется информировать людей, которые подозреваются в коррупции, о том, что против них будет проводиться расследование, и подозреваемым будет разрешено присутствовать на допросах свидетелей.

*«Эти поправки в основном не позволяют нам расследовать коррупционные правонарушения, мы никогда не доведем наши дела до суда»*, – сказала **Лаура Ковеши**, глава Национального антикоррупционного управления (DNA).

Многие критики указывают на то, что лидер социал-демократов Ливиу Драгня будет одним из главных бенефициаров предложенных мер.

Драгня, который является спикером Палаты депутатов, но не может быть назначен премьер-министром в связи с приговором о махинациях на выборах, в ноябре был обвинен в мошенничестве со средствами ЕС.

Напомним, Евросоюз может начать санкционную процедуру против Румынии по примеру Польши, если Бухарест будет настаивать на изменениях в своей судебной системе.

СТОП-КАДР

# ЛУЧШИЕ ФОТО 2017 ГОДА

*Наш мир – очень красивое место, которое, однако, полно боли и страданий. Такой вывод можно сделать, рассматривая сотню самых сильных снимков года от знаменитого новостного агентства. Подводя итоги 2017 года, агентство Reuters поделилось самыми эмоциональными и мощными фотографиями, сделанными на протяжении последних месяцев.*

**Гигантский айсберг превратил небольшой канадский город Феррилэнд в место паломничества туристов.**

**Река Джамна, Нью-Дели, Индия. Местные жители кормят с лодки чаек туманным утром 17 ноября.**

**Спортсмен из Китая во время прыжка на тренировке перед чемпионатом мира по фристайлу в Сьерра-Неваде, Испания, 9 марта.**

**Наводнение в Перу 17 марта. Люди в провинции Лима переходят через затопленную улицу.**

**Люди наблюдают за сессией каталонского регионального парламента по вопросу независимости региона на огромном экране в Барселоне 10 октября.**

ПРИЯТНОГО АППЕТИТА!

# От икры до чизбургера: что едят мировые лидеры

### *10 странных привычек в еде от мировых лидеров*

Президент США Дональд Трамп на весь мир известен своей эксцентричностью. В том числе и в еде: глава мировой державы предпочитает питаться бургерами и картошкой. А вот в рационе других лидеров прошлого и настоящего наблюдаются блюда высокой французской кухни, сливовые пироги и творог с кетчупом. «Газета.Ru» – о самых странных пищевых предпочтениях видных политиков прошлого и настоящего.

**1.Ким Чен Ир**

О гастрономических предпочтениях покойного лидера Северной Кореи стало известно благодаря его бывшему повару по имени Кеджи Фуджимото. По словам кулинара, отец Ким Чен Ына питался сплошными деликатесами: черная икра с Каспия, свинина из Дании, папайя и манго из Таиланда, коньяк из Франции, рыба для приготовления суши с рынка в Токио.

**2.Маргарет Тэтчер**

Гастрономические привычки Маргарет Тэтчер стали достоянием общественности благодаря записям в ее личном дневнике. Так, в 2010 году британское общество узнало, что перед участием в выборах она села на жесткую диету. Рацион будущего на тот момент премьер-министра состоял из вареных яиц, грейпфрута, овощей и черного кофе – классический набор продуктов для людей, которые стремятся скинуть вес за короткий промежуток времени. От услуг шеф-повара Тэтчер отказывалась, предпочитая готовить себе самостоятельно.

**3.Бриджит и Эммануэль Макрон**

Как истинные французы, супруги Макрон воспринимают принятие пищи как особенный ритуал. За их рацион отвечает шеф-повар Елисейского дворца Гийом Гомес, который готовил еду для трех предыдущих президентов. Меню первых лиц в большинстве своем состоит из французских блюд, особое внимание уделяется рыбе, овощам и фруктам. Продукты, которые попадают на стол, производятся в радиусе не более чем 100 км от Парижа. Травы же выращивают в садах дворца. К слову, внимание уделяется даже посуде: для приготовления еды на кухне используются медные ковши еще времен Наполеона. Главная слабость президента Франции – кордон блю, куриное филе, фаршированное сыром и ветчиной.

**4.Елизавета II**

Королева Великобритании любит пищу вполне простую и желательно местного производства. Никаких несезонных фруктов или экзотических сортов рыбы. Если мясо, то это должна быть запеченная говядина или оленина из королевских резиденций Сандрингэм и Балморал, если рыба, то пусть это будет европейская солея. Большое внимание в рационе уделяется овощам – на столе всегда есть шпинат, кабачки и листья салата. А вот от продуктов с содержанием крахмала монархиня старается воздерживаться, поэтому рис, картофель и даже итальянская паста не попадают на королевский стол. Равно как лук и чеснок, королева их терпеть не может.

**5.Уинстон Черчилль**

Уинстон Черчилль к вопросу еды подходил тоже с особой ответственностью. Политические вопросы он решал во время приема пищи, поэтому на угощение никогда не скупился. Так, бывший премьер-министр Великобритании отдавал предпочтение устрицам, икре, мясу и, как настоящий англичанин, любил сыр стилтон. А на десерт подавались фрукты с мороженым. Отдельного упоминания заслуживают отношения Черчилля с алкоголем. Несмотря на то, что он практически не расставался со стаканом виски, миф о его алкоголизме не более чем миф – виски он позволял себе только пригубить, отчего оставался трезвым. Однако в напитках он разбирался: среди его любимых были шампанское, бренди, сухой мартини и кларет, то есть светлое красное бордо.

**6.Ангела Меркель**

В отличие от большинства первых лиц государств, канцлер Германии предпочитает готовить сама – и она искренне любит это делать. По ее меню можно понять, какие блюда составляют немецкую кулинарную традицию: впрочем, из этого списка выпадают шашлык и кебаб. В остальном все традиционно – лечо (да, сказывается влияние Центральной Европы), форель, картофельный суп и айнтопф, (густой немецкий суп с тушеным мясом и овощами), который заменяет первое и второе блюда. На десерт канцлер ест сливовый пирог.

**7.Барак Обама**

Несмотря на все старания Мишель Обамы ввести в рацион здоровую пищу, Барак Обама всегда оставался верен своим вкусовым пристрастиям – фастфуду. Особенно экс-президент любит чизбургеры, картошку и сэндвичи. «Барак с удовольствием ест картошку-фри с сальсой и гуакамоле. А также арахис, миндаль и орехи пекан», – рассказала первая леди в одном из интервью.

**8.Билл Клинтон**

Слабость к вредной еде испытывал и 42-й президент США Билл Клинтон. Во время избирательной кампании он активно налегал на чизбургеры и булочки с корицей, чем всерьез озадачивал супругу Хиллари. Она настоятельно рекомендовала мужу отказаться от подобной привычки, так как лишний вес мог испортить имидж будущего президента. Послушать супругу Билл решил, лишь покинув президентское кресло, – сейчас в его рационе почти всегда вегетарианские блюда.

**9.Ричард Никсон**

Самое странное, что ел Ричард Никсон, был его завтрак. Ел он домашний творог (это наиболее понятный нам аналог американского cottage cheese) с фруктами, йогуртом и отрубями. Но это еще не все. Многие источники отмечают, что приправлять творог он любил перцем или кетчупом. А еще он обожал мясной хлеб. Кстати, Дональд Трамп его тоже любит.

**10.Эво Моралес**

Экс-президент Боливии Эво Моралес всегда был против всего, что любят обычные люди. Он никогда не ест фастфуд и убежден, что именно в гамбургерах и жареной картошке кроется причина раковых заболеваний. Выступал чиновник и против курицы. В одном из интервью он сказал: «Курица, которую мы употребляем в пищу, напичкана женскими гормонами. Поэтому мужчины, которые ее едят, уже не совсем мужчины».

**Мария БОРИСОВА.**

ЯКІМ ДЛЯ ВАС БЫЎ 2017 ГОД?

## Зміцер ВАЙЦЮШКЕВІЧ, бард

# Прарваўся!

Добры быў год! Па-першае, пабываў з канцэртным турам у ЗША і Канадзе. Таксама далі дазвол на выступленне ў Мінску з нагоды 25-годдзя маёй сцэнічнай дзейнасці, выйшаў альбом на вершы Уладзіміра Някляева, было шмат іншых канцэртаў…

А ў сямейным жыцці мы таксама не стаялі на месцы. Сын Язэп пайшоў у другі клас, дачка збіраецца ў школу ў наступным годзе. Пабудавалі тэрасы на Нёмане, рыхтуемся яшчэ і домік будаваць. Так што запрашаем усіх на хутар "Вайцюшкі" на фестываль і проста адпачыць.

Адным словам, год быў вельмі насычаны і канцэртамі, і дазволамі, і планамі. Цудоўны старт як мінімум на наступную пяцігодку.



ДАЛЁКАЕ – БЛІЗКАЕ

# «В 2017 году…»

Кніга з такой назвай захоўваецца ў маёй бібліятэчцы. Я набыў яе ў далёкім 1968 годзе. Выдадзена савецкім агенцтвам друку (АПН) статысячным накладам на рускай, англійскай, французскай і іспанскай мовах.

Тады, пасля ўрачыстага святкавання 50-годдзя савецкай улады, камусьці захацелася зазірнуць яшчэ на 50 год наперад і ўявіць сабе тое "новае шчаслівае жыццё". Памарыць аб ім прапанавалі тром дзясяткам аўтараў, і знакамітым, і менш знакамітым, і зусім невядомым. І яны марылі. Пра што?

Натуральна ж, пра "мир изобилия, свободы и гармонии", які завецца камунізмам, пра палёты на Марс і Венеру і абсерваторыі на Месяцы, пра штучныя моры, створаныя пасярод Сахары і ў Сібіры, пра растопленыя льды Арктыкі, на якой ужо вядзецца земляробства, пра цукар, выраблены з пілавіння, і адсутнасць грошай ("это и будет мир торжествующего коммунизма, общество свободного труда"), пра 90-гадовых атлетаў, якія гуляюць у тэніс… І ўсё гэтае шчасце дасягаецца, толькі дзякуючы вялікай рэвалюцыі і яе стваральнікам Марксу і Леніну. Горад Ульянаўск становіцца шыкоўна аформленым горадам-музеем, наведаць які прылятаюць на сваіх іоналётах людзі з усіх кантынентаў…

Тады мне, студэнту, было няпроста адшкадаваць паўтара рубля (кошт двухдзённага харчавання) на кніжку "В 2017 году…", помню, я доўга круціў яе ў руках у краме, але ўсё ж вырашыў набыць: маўляў, дажыву, дык падзіўлюся ці парагачу. Вось, дзякаваць Богу, дажыў. І парагатаў. Але, парагатаўшы, прыгледзеўся ўважлівей. І пачаў заўважаць цікавыя дэталі.

Прозвішчы аўтараў раздзелаў чамусьці змешчаны не побач з назвай раздзела, а вынесены ў канец кнігі з указаннем старонак, якія (выпадкова ці невыпадкова) пераблытаны. Так можна рабіць, калі аўтару не вельмі хочацца бачыць сваё прозвішча пад напісаным ім тэкстам. Таму раблю лагічную выснову: некаторыя аўтары разумелі, што пішуць лухту. Праглядваю прозвішчы, знаходжу вядомыя: Ігар Бястужаў-Лада, Мікалай Амосаў, Аляксандр Міта, Марці Ларні. Але побач кідаюцца ў вочы: Андрэеў, Ільін, Пятроў, Сакалоў, якія хутчэй псеўданімы, а не прозвішчы. Такая гіпотэза яшчэ болей умацоўвае маё падазрэнне.

Яно, гэтае падазрэнне, узнікла не зараз, а зарадзілася яшчэ тады, калі набыў і праглядваў кнігу. Бо прыблізна ў той жа час набыў яшчэ адну – пра падзеі ў Чэхаславакіі летам 1968 года. Тады савецкія войскі з пяццю тысячамі танкаў прысмірылі чэхаў і славакаў, якія захацелі вырвацца з сацыялістычнага лагера і развівацца па ўласных арыенцірах. Савецкім людзям трэба было паказаць гуманнасць гэтай вайсковай місіі (маўляў, мы абаранялі мірных грамадзян ад разнузданых контррэвалюцыянераў), з гэтай мэтай тэрмінова выдалі кнігу, якую я таксама набыў, тым больш што яе кошт быў невялікі. Фактычна гэта быў фотаальбом з мінімумам тэксту. На фотаздымках радасныя твары нібыта чэхаў, якія вітаюць савецкія танкі букетамі кветак, маханнем хустачкамі і капелюшамі, спевамі і танцамі.

Магчыма, я, зялёны юнец, паверыў бы ў гэткае шчасце для чэхаў. Але захацелася даведацца, хто ж здымаў усё гэта на вуліцах Прагі. І… не знайшоў у кнізе ніводнага прозвішча аўтара фотаздымкаў. Больш за тое, не знайшоў там ні аўтараў кароткіх тэкстаў, ні тых, хто рыхтаваў кнігу да друку. Ніякіх імёнаў!

Я збянтэжана пакруціў у руках тую ананімку, і мозг пачала свідраваць крамольная думка: калі людзі не хочуць ганарыцца сваім творам, падрыхтаванай кнігай, а сарамліва хаваюцца, значыць, ёсць чаго саромецца? Значыць, у кнізе няпраўда?!

Так пачыналася маё праcвятленне, маё асэнсаванне камунізму. Мабыць, не толькі маё…

**Міхась БУЛАВАЦКІ, настаўнік.**

*Магілёў.*

ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

# Наталья Поткина ждет двойню!

*В ожидании двойни успешный белорусский дизайнер Наташа Поткина устроила вечеринку для своих близких и друзей.*



«Это пока новая для Беларуси традиция собирать приданое для будущих малышей, – говорили гости мероприятия. – Была отличная идея встретиться семьями и отметить будущее событие!»

«Очень надеюсь что такие вечеринки станут популярны у нас в стране», – говорит Наталья.

Наталья Поткина воспитывает двух детей – сына Льва (14 лет) и дочь Эвелину (10 лет). С первым мужем Наталья в разводе.

**Алина ВЕТРОВА.**

БАЛЬШАВІЦКАЯ ГІСТОРЫЯ

# «Кожная камсамолка, якой паступіла прапанова ўступіць у палавыя зносіны, павінна яе выканаць»

18 снежня органы запісу актаў грамадзянскага стану (загсы) адзначылі 100-годдзе з дня заснавання. Бальшавікі, якія здзейснілі дзяржаўны пераварот і прыйшлі да ўлады ў 1917 годзе, прынялі дэкрэт "Аб грамадзянскім шлюбе. Аб дзецях і ўвядзенні кніг актаў стану", згодна з якім царкоўны шлюб адмяняўся. Пры гэтым пазней адзначалася: "*Знішчаючы забабоны неабходнасці царкоўнага вянчання для законнасці шлюбу, няма неабходнасці замяняць яго іншымі забабонамі – неабходнасці палягчэння вольнага саюза жанчыны і мужчыны ў форму рэгістраванага шлюбу*".

Троцкі пісаў Леніну на гэты конт: "*Несумненна, сексуальны прыгнёт ёсць галоўны сродак заняволення чалавека. Пакуль ёсць такі прыгнёт, не можа ісці гаворка пра сапраўдную вольнасць. Сям'я як буржуазны інстытут цалкам сябе вычарпала. Трэба падрабязней пра гэта казаць працоўным*". У адказ стваральнік савецкай дзяржавы заўважаў: "*Не толькі сям'я. Усе забароны, якія датычаць сексуальнасці, павінны быць зняты. Нам ёсць чаму павучыцца ў суфражыстак. Нават забарона на аднаполую любоў павінна быць знята*".

У чэрвені 1918 года ў знак падтрымкі дэкрэта аб грамадзянскім шлюбе ў Петраградзе прайшла дэманстрацыя голых, а 19 снежня – вялікае шэсце з плакатамі "Далоў сорам!". Вядомы пісьменнік-фантаст Герберт Уэлс, які наведаў Савецкую Расію, здзіўляўся: "*Як проста ішла справа з сексам у краіне сацыялізму, які перамог! Празмерна проста*".

У кожнай з губерняў новай дзяржавы ў першы год пытанне сямейных адносін вырашалася на мясцовым узроўні. Таму дайшла справа да "Дэкрэта аб размеркаванні жанчын" у Тамбоўскай губерні або "Дэкрэце аб нацыяналізацыі жанчын" у Разанскай. У Валгаградзе ў жыццё ўвайшла такая пастанова: "*Кожная камсамолка, рабфакаўка або іншая навучэнка, якой паступіла прапанова ад камсамольца або рабфакаўца ўступіць у палавыя зносіны, павінна яе выканаць. Інакш яна не заслугоўвае звання пралетарскай студэнткі*". Такія палажэнні, якія, дарэчы, уводзіліся ў жыццё з падачы "музаў рэвалюцыі" Аляксандры Калантай і Інесы Арманд, хутка выклікалі сапраўдную хвалю незадаволенасці, і прыйшлося скасоўваць недахопы на месцах, у тым ліку пры дапамозе Усерасійскай надзвычайнай камісіі".

Грамадзянскія шлюбы доўжыліся ў большасці выпадкаў не больш за год. У цэлым на 1922 год са створаных новых сем'яў у Петраградзе распалася 92,2%. А ў выніку неахайнага стаўлення да сямейнай палітыкі Савецкі ўрад фактычна легалізаваў аборты, якія паводле дэкрэта ад 18 лістапада 1920 года павінны былі адбывацца пад медыцынскім кантролем.

Згодна з прынятым у 1926 годзе кодэксам пра шлюб, сям'ю і апеку, рэгістрацыя адносін мужчыны і жанчыны заставалася неабавязковай. Толькі ў 1930-я гады ў дачыненні да інстытута сям'і робяцца радыкальныя захады. Урэшце ў 1936 годзе, згодна з новым сямейным кодэксам, былі забаронены аборты, а "свабодная любоў" прызнана антысацыялістычнай. У той жа час запісы шлюбаў у загсах сталі абавязковымі.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК.**

ПРАГНОЗ

# Якімі будуць кошты на кватэры ў сталіцы ў 2018 годзе?

*Намеснік дырэктара па продажах на другасным рынку жылля агенцтва нерухомасці "Твая сталіца" Святлана КУДЗЕЛКА распавяла "Народнай Волі" пра цэны на кватэры ў Мінску ў гэтым годзе і ў наступным.*



– У 2017 годзе адбывалася зніжэнне стаўкі рэфінансавання, а таму крэдыты на жыллё сталі для людзей больш даступныя, – кажа Святлана Іванаўна. – Амаль 40 працэнтаў здзелак адбываліся менавіта з прыцягненнем крэдытных рэсурсаў, і лістапад у гэтым плане стаў самым актыўным месяцам. Хаця крэдыты на цэнаўтварэнне практычна не ўплывалі. Праўда, у апошнія месяцы цэны на кватэры падняліся прыкладна на 2–3 працэнты, але гэта больш звязана з тым, што людзі заўсёды стараюцца менавіта да канца года вырашыць кватэрнае пытанне.

**– Ці змяніліся цэны на нерухомасць у параўнанні з мінулым годам?**

– Калі казаць пра здзелкі з кватэрамі са стандартнымі спажывецкімі якасцямі (мы не бяром пад увагу вельмі таннае і вельмі дарагое жыллё), то апошнія два гады цэны на іх застаюцца прыкладна на адным узроўні і балансуюць вакол адзнакі 1050 долараў за квадратны метр.

**– Якія прагнозы на 2018 год?**

– Мы прагназуем, што сітуацыя на рынку жылля застанецца такой жа стабільнай, якой яна была і да гэтага. Кошты на сталічныя кватэры могуць вагацца, але практычна не зменяцца.

**Алесь СІВЫ.**

ПАМЯЦЬ

# Гуманіст, вучоны, педагог…





С.П.Ярашэвіч у асяроддзі студэнтаў-гурткоўцаў.

30 лістапада 2017 года пасля цяжкай хваробы пайшоў з жыцця здольны вучоны, таленавіты педагог, дацэнт кафедры нармальнай анатоміі Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта, кандыдат медыцынскіх навук Станіслаў Пятровіч Ярашэвіч.

Без малога 60 гадоў таму ён паступіў у Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут, якому заставаўся верным да канца сваіх дзён. Тут ён скончыў аспірантуру, абараніў дысертацыю, працаваў старшым навуковым супрацоўнікам і ўзначальваў самую масавую грамадскую арганізацыю – прафсаюзную. З 1978 года Станіслаў Пятровіч перайшоў на выкладчыцкую працу спачатку асістэнтам, затым дацэнтам кафедры нармальнай анатоміі, якую ён узначаліў у 1996-м і якой кіраваў па 1999 год.

Станіслаў Пятровіч праявіў свой даследчы талент і ў іншых галінах навукі. Ён быў прызнаным аўтарытэтам у пытаннях гісторыі кафедры, на якой працаваў. Ім дасканала вывучаны стварэнне і развіццё анатамічных музеяў у нашай краіне. Вялікае значэнне С.П.Ярашэвіч надаваў педагагічнаму прынцыпу нагляднасці ў выкладанні анатоміі чалавека. Ён унёс істотны ўклад у стварэнне анатамічных музейных і вучэбных прэпаратаў, а таксама табліц і муляжоў, якія павышаюць нагляднасць выкладання прадмету.

Станіславу Пятровічу заслужана належыць прыярытэт выкладання анатоміі на беларускай мове, ён – адзін з аўтараў навуковай беларускай анатамічнай тэрміналогіі і руска-беларуска-лацінскага слоўніка «Анатомія». Усё сваё жыццё ён хварэў душой за адраджэнне беларускай мовы, самабытнасці беларускай культуры.

На фарміраванні шматграннай асобы Станіслава Пятровіча адбілася багатая гістарычная спадчына яго малой радзімы – вёскі Уселюб Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці, якой ён вельмі ганарыўся. Гэтая вёска вядома сваім сядзібнапаркавым комплексам XVIII–XX стагоддзяў і самым старым касцёлам на тэрыторыі Беларусі, узведзеным ў 1433 годзе князем Андрэем Уселюбскім. Непаўторнае зачараванне вёскай Уселюб з яе архітэктурнымі помнікамі ў стылі неаготыкі, якім наканавана выконваць сакральную місію храмаў, знайшло адлюстраванне ў апавяданнях і нататках Станіслава Пятровіча, якімі ён дзяліўся з сябрамі і калегамі.

Чалавек, які нарадзіўся ў такой знакамітай мясцовасці, не мог ставіцца да радзімы інакш, чым ставіўся да яе Станіслаў Пятровіч – з павагай і любоўю. Ён неаднаразова наведваўся ў родныя мясціны, дасканала вывучыў гісторыю роднага краю і сваіх продкаў, падкрэсліваючы вялікую ісціну: без мінулага няма будучыні. Пераняўшы ад бацькоў любоў да працы і называючы сябе «працаголікам», Станіслаў Пятровіч, пачынаючы са школы, дапамагаў бацькам, пазней, пасля заканчэння Навагрудскага медыцынскага вучылішча, працаваў рэнтген-лабарантам Гродзенскага абласнога супрацьтуберкулёзнага дыспансера, а падчас вучобы ў інстытуце падпрацоўваў медбратам.

Педагагічная дзейнасць С.П.Ярашэвіча ў поўнай меры раскрыла яго шматгранны характар. Ён умеў згуртаваць вакол сябе моладзь, зацікавіць яе. Станіслаў Пятровіч на працягу 10 гадоў кіраваў студэнцкім навуковым гуртком кафедры нармальнай анатоміі. Ён сумесна з гурткоўцамі распрацоўваў новыя цікавыя напрамкі ў вывучэнні анатоміі чалавека.

Неацэнны ўклад зрабіў Станіслаў Пятровіч у падрыхтоўку медыцынскіх кадраў. Будучы чалавекам адказным, добрасумленным, прыстойным, ён асабістым прыкладам выхоўваў падрастаючае пакаленне ўрачоў, поспехамі якіх ганарыўся і якія сапраўды занялі годнае месца ў грамадстве.

Станіслава Пятровіча Ярашэвіча адрознівала выключная ўнутраная інтэлігентнасць, непаўторнае абаянне, шчырасць і тактоўнасць. Ён быў творчым чалавекам, цаніў і ведаў жывапіс, любіў гісторыю Беларусі і паэзію. Ён назаўсёды застанецца ў сэрцах блізкіх, сяброў і калег надзейным таварышам і мудрым дарадцам, заўсёды гатовым прыйсці на дапамогу ў любой сітуацыі.

13 кастрычніка 2018 года споўнілася б 80 гадоў Станіславу Пятровічу Ярашэвічу і 40 гадоў яго дзейнасці на кафедры нармальнай анатоміі БДМУ. Аднак, на жаль, гэтаму не наканавана было спраўдзіцца.

Пайшоў з жыцця чалавек, чые цёплыя, мудрыя словы мы не стамляемся паўтараць. Яго высокі навуковы патэнцыял, шырокая эрудыцыя, прыроджаная сціпласць і павага да людзей назаўжды застануцца ў памяці калег і вучняў.

**Юлія ГУСЕВА, дацэнт кафедры нармальнай анатоміі БДМУ.**

КРЫЖАВАНКА

# Калядны калейдаскоп

**Па гарызанталі:** 1."Хай … родзіць,//Хай чарка ходзіць.//Хай патэльня трашчыць,//На ёй скварка пішчыць" – пажаданне калядоўнікаў гаспадару хаты. 5.Калядкі – добрыя … : бліны ды аладкі. (Прык.). 10."Ой, па мосціку, па залатому,//Каляда, Каляда !//Ой, стучаць, бяжаць … , Каляда, Каляда!" – з каляднай песні. 11.Студзень хаты студзіць – … гаспадароў будзіць. (Прык.). 12.Скрутак доўгай стужкі, якую кідаюць у танцуючых на карнавалах, балях. 13.Пагардлівая назва іншаверца ў магаметан. 15.Прэснаводная рыба. 16. … і баба – персанажы каляднага гурта, якія прадстаўлялі памерлых продкаў. 17."… пах, яліны, стаяць розныя стравы,// прытаміўшыся, маці шчаслiва маўчыць" – з верша Л.Геніюш "Святы вечар". 18."Шпарка … імчацца ў полі,//Сумна бомы гудзяць пад дугой" – з верша М. Багдановіча "Зімовая дарога". 19. Мастацкі твор, напісаны рытмізаванай мовай. 21.Калі перад Калядамі выпадзе снег, то будзе грыбное … . (Прыкм.). 22. "Дзе … рогам,//Там жыта стогам.//Дзе … ступіць,//Там яно кусціць" – з каляднай песні. 23.Імя рускага савецкага пісьменніка, паэта Твардоўскага, які нарадзіўся, паводле ўсходнеазіяцкага календара, у год Сабакі, сімвала надыходзячага 2018 года. У такі ж год нарадзіліся таксама Цыцэрон, М. Лермантаў, К.Каліноўскі, В.Гюго, Ул. Някляеў, С.Законнікаў, Зм.Бядуля, Д. Трамп. 28."Стынуць вербы, бы змярцвеўшы,//Тчэ мароз ім свой …" – з паэмы Я.Коласа "Сымон-музыка". 30. Зімовае … – перыяд часу з мінімальнай вышынёй Сонца над гарызонтам (20–24 снежня). 31."Любіць санкі наш … .//Ну, а санкі любяць горку" – з верша Г.Аўласенкі "Як Ягорка ехаў з горкі". 32.Тое, што і зімовішча.

**Па вертыкалі:** 2.Планета Сонечнай сістэмы.3.Тканіна з шурпатай паверхняй. 4.Паясная папруга. 6.Не спяшы, каза, у лес, усе … твае будуць. (Прык.). 7.Вялікая колькасць чаго-небудзь сыпкага. 8."Там празрысты звонкі лёд,//Там вясёлы …" – з верша Д.Бічэль-Загнетавай "Мае канькі". 9."Тут … , зайчык, мышка,//Рыбка, буслік даўгавязы" – з верша Я.Коласа "Дзед Мароз". 14."З Новым годам, … мая!//З Новым годам !" – з верша А.Салаўя "З Новым годам!". 15.У беларускай міфалогіі дух – увасабленне лесу. 18.На Каляды – … , на Вялікдня – сыр, а ўсё чалавек сыт. (Прык.). 20.Свята з карагодамі і песнямі, якое на Беларусі пачыналі адзначаць напярэдадні 1 студзеня і працягвалі да трэцяй куцці. 24.Невялікі лес. 25."Ёлку везлі нам на …//Белы зайка і жаўна" – з верша С.Сакалова-Воюша "Ёлка". 26."І вясёлыя … на ганку,//І на дрогкім кусце снегіры,//І канькі, і нястомныя санкі" – з верша Т.Дзям'янавай "Не надыхацца, не наталіцца". 27."… сграбці ў дзве далоні// Спяшае снегаачышчальнік" – з верша Р. Барадуліна "Зазімак". 29.Прыстасаванне для сцёку вадкасці.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ.**

*г.Дзяржынск.*



(Адказы – у наступным нумары.)

